*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 12
Ліпень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## Дзень Незалежнасці

22 гады таму была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. 27 Ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Гэты важны для нашай дзяржавы дакумент стаў першым афіцыйным крокам да незалежнасці Беларусі. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце абвясціла *«поўны дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх адносінах".* Менавіта з гэтага дня пачаўся адлік новай гісторыі нашай краіны. 27 ліпеня было абвешчана Днём незалежнасці Беларусі.



25 Жніўня 1991 Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце атрымала статус канстытуцыйнага закона, на падставе якога былі ўнесеныя змены і дапаўненні ў Канстытуцыю 1978 года. Новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь была прынята 15 сакавіка 1994 года.

Афіцыйныя ўлады адмянілі свята пасля рэферэндуму 1996 года, на якім Аляксандр Лукашэнка атрымаў неабмежаваныя паўнамоцтвы. Дзень незалежнасці пачалі адзначаць у Дзень вызвалення Менска ад ня-мецка-фашысцкіх захопнікаў 3 ліпеня. Дэмакратычная грамадскасць, як і раней, адзначае Дзень незалежнасці менавіта 27 ліпеня.

*Юлія БРУК.*

## Крыніца вычарпалася

У канцы ліпеня пачалася працэдура ліквідацыі вытворчасці прадпрыемства «Вейнянскі роднік» Магілёўскага раёна.




Аб закрыцці вытворчасці абвясціў 20 ліпеня на прэс-канферэнцыі старшыня камітэта эканомікі Магілёўскага аблвыканкама Мікалай Дудзінскі. Паводле яго слоў, «Вейнянскі роднік» спыніў вытворчасць, пачынаецца працэдура ліквідацыі, працаўнікі прадпрыемства працаўладкаваны.

Заснавальнікамі ТАА «Завод «Вейнянскі роднік» з'яўляліся ААТ «Магілёўхімвалакно» і ААТ «Фірма «Вейна». Завод ўвялі ў эксплуатацыю ў 1994 годзе. Абсталяванне закупілі ў Германії. У гады свайго росквіту на «Вейнянском роднике» выраблялі безалкагольныя і слабаалкагольныя напоі, разлівалі мінеральную ваду. Прадукцыя прадавалася ў Беларуси і ў Расіі.

*Міхась БАРАЗНА.*



## Беларусь - абсалютны лідэр

Беларусь - абсалютны лідэр па росце коштаў у краінах былога СССР. Аналіз дадзеных нацыянальных органаў статыстыкі сведчыць, што па выніках студзеня-чэрвеня Беларусь з 10,5% заняла першае месца сярод краін былога СССР па росце спажывецкіх цэн. Кошты ў Беларусі раслі ад 3 да 105 разоў хутчэй, чым у іншых рэспубліках.

З пачатку года цэны ў Беларусі павялічыліся на 10,5%. У Расіі, за той жа перыяд, цэны павялічыліся на 3,2%, у Казахстане - на 2,7%, Таджыкістане - на 2,5%, Эстоніі - на 2,4%, Літве - на 2,3%, Латвіі - на 2%, Малдове - на 1%, Кыргызстане - на 0,9%, Украіне - на 0,1%. У Арменіі кошты знізіліся на 0,4%, у Грузіі - на 1,3%, у Азербайджане - на 2,1%. У Узбекістане цэны за першы квартал павялічыліся на 2,7%, у Туркменістане - знізіліся на 0,8%. У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы цэны ўзраслі за першае паўгоддзе на 7,75%.

Па росце спажывецкіх цэн у чэрвені Беларусь з 1,8% таксама заняла першае месца. Далей ідуць Расія (0,9%), Казахстан (0,3%), Таджыкістан (0,2%) і Эстонія (0,1%). Дэфляцыя зафіксавана ў Латвіі, Літве (па 0,1%), Малдове, Украіне (па 0,3%), Кыргызстане (0,4%), Грузіі (0,9%), Азербайджане і Арменіі (па 1,3% ).

У 2011 годзе Беларусь таксама займала першае месца сярод краін - рэспублік былога СССР па росце спажывецкіх цэн. У мінулым годзе цэны выраслі на 108,7%.

*(Паводле БелаПАН).*

## Галоўнае - перамога!

А.Лукашэнка заявіў 10 ліпеня, праводзячы беларускіх спартсменаў у Лондан, што на Алімпійскі Гульнях галоўнае не ўдзел, а перамога. На думку беларускага кіраўніка, *"трыумф спартсмена зменьвае краіну ў вачах сусветнай супольнасці, фармуючы яе станоўчы імідж".*

*"Хачу, каб вы разумелі, што ў спорце ўсё бывае, але толькі не на Алімпійскіх гульнях. Да Алімпійскіх гульняў чалавек рыхтуецца і рыхтуе ўсе рэзервы, якія ў яго ёсць. Таму можа быць толькі перамога. Галоўнае ня ўдзел, а перамога. Вось вам мой наказ ад імя беларускага народа ",* - сказаў тады А.Лукашэнка.

На Алімпіядзе-2012 запланавана заваяванне беларускай камандай 25 медалёў, пяць з каторых - залатыя.

Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі не дапусцілі на Алімпійскія гульні ў Лондане па рашэнні Еўрапейскай камісіі. Пра гэта заявіў кіраўнік Міжнароднага алімпійскага камітэта (МАК) Жак Рогe.

*"Лукашэнка не пусцілі на тэрыторыю Вялікабрытаніі, так як ён тра-піў у чорны спіс Еўракамісіі ў Брусэлі і мы паважаем гэта рашэнне",* - патлумачыў ён на прэс-канферэнцыі.

Прэзідэнт Беларусі, які з'яўляецца па сумяшчальніцтве кіраўніком Нацыянальнага алімпійскага камітэта краіны, знаходзіцца ў спісе беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у краіны Еўрасаюза. Гэтая мера звязаная з *"парушэннямі міжнародных стандартаў падчас выбараў прэзідэнта ў снежні 2010 года".*



Беларускія алімпійцы, які прыехалі ў Лондан, самі перапраналі свае касцюмы ў нацыянальныя бел-чырвона-белыя і ў такім выглядзе выйшлі на афіцыйную цырымонію ўзняцця дзяржаўнага сцяга.

Першапачаткова адзенне беларускіх спартсменаў было задумана як бел-чырвона-зялёная - у колерах афіцыйнага сцяга. Да светлага дзелавога касцюма дадаюцца чырвоная кашуля і зялёны гальштук, наяўнасць якога праігнаравалі ўсе спартсмены, што наўрад ці можна назваць выпадковасцю. Атрымліваецца, што на цырымоніі ўзняцця ў алімпійскай вёсцы беларускага сцяга спартсмены дэманстратыўна не надзелі зялёныя гальштукі і выйшлі ў апазіцыйнай бел-чырвона-белай каляровай гаме.

Абураныя тым, што прэзідэнту Аляксандру Лукашэнка было адмоўлена ў атрыманні віз на летнюю алімпіяду ў Лондане, якая пачалася 27 ліпеня, магілёўцы патрабуюць захадаў у адказ.

З адпаведным лістом яны звярнуліся да старшыні алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Ініцыятарам звароту выступіў грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі, які шакаваны адбыўшайся знявагай да вышэйшых дзяржаўных чыноў Беларусі і, як след, да простага беларускага народа.

У сваім лісце 35 жыхароў Магілёва просяць забараніць уезд каралеве Вялікабрытаніі Елізавеце ІІ і Папе Рымскаму на чэмпіянат свету па хакею, які мусіць адбыцца ў Беларусі ў 2014 годзе.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

## Ініцыятыва



Былы кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў вылучыў ідэю неадкладнага правядзення Усебеларускага з'езда. Каб усёй грамадой, усім народам вырашыць – як выходзіць з тупіка, у якім апынулася краіна.

Гэтую ідэю падтрымаў гонар беларускай інтэлігенцыі: сустаршыні Усебеларускага з'езда за незалежнасць 2000 года Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч.

## ВЫБАРЫ 2012

### Зарэгістраваны ініцыятыўныя групы

Акруговая выбарчая камісія Магілёўскай сельскай выбарчай акругі № 88 па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання зарэгістравала тры ініцыятыўныя группы грамадзян па збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку вылучэння кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай сельскай выбарчай акрузе № 88:

ІРХО Аляксандра Альгертавіча, 07.06.1977 года нараджэння, беспрацоўнага, пражываючага у г.Магілёве, члена Беларуская партыі левых «Справедливый мир».

Ініцыятыўная група № 1 складаецца з 12 чалавек.

РАЗГАНАВА Аляксандра Іванавіча, 06.02.1953 года нараджэння, намесніка старшыні камісіі па аграрных пытаннях Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, пражываючага у г.Мінске, беспартыйнага.

Ініцыятыўная група № 2 складаецца з 128 чалавек.

МАСКАЛЁВАЙ Тамары Міхайлаўны, 30.06.1952 года нараджэння, пенсіянеркі, пражываючай у в.Прысна-2 Магілёўскага раёна, беспартыйнай.

Ініцыятыўная група № 3 складаецца з 15 чалавек.

Акруговая выбарчая камісія Шклоўскай выбарчай акругі № 90 па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання зарэгістравала две ініцыятыўныя группы грамадзян па збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку вылучэння кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Шклоўскай выбарчай акрузе № 90:

№ 1 - АГЕЕВА Аляксандра Віктаравіча.

№ 2 - ІРХО Аляксандра Альгертавіча.

### ЗАТРЫМАЛІ ЗА ЗБОР ПОДПІСАЎ

Актывіст незалежнага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці Аляксей Паўлоўскі быў затрыманы ў інтэрнаце магілёўскага завода "Зеніт". Ён збіраў подпісы ў падтрымку патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты Рыгора Антановіча і Уладзіміра Пунчанкі.

Па словах актывіста, яго затрымалі каля васьмі гадзін вечара. Міліцыю ў інтэрнат выклікала вахцёрка. *«Яна націснула кнопку трывогі. Прыехалі двое міліцыянтаў. Ім вахцёрка сказала, што я ў інтэрнаце займаюся палітычнай агітацыяй. Мяне адвезлі ў пастарунак. Там я паказаў падпісныя лісты, мяне зноў павезлі ў інтэрнат. Там высветлілася, што вахцёру загадала камендант выклікаць міліцыю. Каменданту, у сваю чаргу, загадаў намеснік дырэктара па ідэалогіі завода «Зеніт». Мяне адпусцілі. Міліцыянты склалі пратакол за ілжывы выклік. Я збіраюся пісаць скаргі ў акруговую выбарчую камісію і ў пракуратуру аб перашкаджэнні збору подпісаў. Сітуацыя з маім затрыманнем паказвае, што роўных умоў для ўсіх прэтэндэнтаў няма»,* – заяўляе Аляксей Паўлоўскі.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

## Адраджэнне Піпенберга

Сядзіба Піпенберг будзе адроджана ў новай якасці. Нямецкі інвестар мае намер пабудаваць гасцініцу. Пастаўлена ўмова узнавіць фасад палаца, аблічча якога захаваны на старых фотаздымках

Цудоўнай прыгажосці сядзібу Піпенберг з каменным домам і паркам, у цені дрэў якога хаваліся альтанкі і статуі ў антычным стылі, – называюць шэдэўрам садова-паркавай творчасці. Гэты шэдэўр быў створаны ў 18 стагоддзі на высокім беразе Дняпра ў наваколлях цяперашніх Буйніч як дача другога беларускага намесніка Пятра Пассека, былога да таго ж генерал-губернатарам.

Для нашчадкаў будзе цікавым факт з гісторыі нашага горада і будаўніцтва Піпенберга. Падчас губернатарства Пассека ў Магілёве адбылася сустрэча Кацярыны Вялікай з імператарам Іосіфам ІІ, у памяць аб якой быў закладзены кафедральны сабор св.Іосіфа. Падрадчыкам па яго будаўніцтву выступаў купец Чыр'еў, які тымі ж будаўнічымі матэрыяламі і працоўнымі аздабляў «мызу Піпенберг». Упрыгожванне Магілёўскага прадмесьця прыйшло ў занялад пасля рэвалюцыі ...

*– Месца, дзе знаходзілася сядзіба Піпенберг, размешчана ў канцы тэрыторыі Магілёўскага заасаду,* – тлумачыць дырэктар аграпесатэхнічнага каледжа Георгій Маліноўскі. – *Там да гэтага часу засталіся руіны амфітэатра пры губернатарскім доме, дзе выступалі артысты.* Георгій Мікалаевіч паведамляе, што Піпенберг будзе абавязкова адроджаны пры дапамозе нямецкага інвестара.

*Юлія БРУК.*

## Ініцыятыва

Яны выступілі з заявай.


Рыгор Барадулін


Генадзь Бураўкін


Радзім Гарэцкі


Анатоль Грыцкевіч

“Падзеі апошняга часу ў жыцці Бацькаўшчыны выклікаюць вострую трывогу за яе будучыню.

Фінансавы крызіс, дэвальвацыя рубля выявілі слабасць айчыннай эканомікі. Распачаты продаж дзяржаўнай маёмасці пагражае стратай нацыянальнага багацця, нажытага многімі пакаленнямі беларусаў. З-за непрадбачлівай і непаслядоўнай знешняй палітыкі наша краіна няўстрымна аддаляецца ад дэмакратычнага свету і ўпарта коціцца да міжнароднай ізаляцыі. Настойлівымі высілкамі чынавенства груба і няўхільна дыскрымінуецца нацыянальная культура, выціскаецца са штодзённага ўжытку беларуская мова — падсякаюцца карані нацыі. Няўмольна паглыбляюцца экалагічныя і дэмаграфічныя праблемы. Усё гэта ставіць пад пагрозу не толькі перспектывы цывілізаванага развіцця Рэспублікі Беларусь, але і яе незалежнасць. Настаў час усёй грамадой прааналізаваць сённяшні дзень Радзімы, знайсці шляхі выпраўлення калектыўных памылак і пралікаў, цвяроза і цвёрда паставіць задачы далейшага станаўлення і сцвярджэння нацыянальнай дзяржавы. Гісторыя ніколі і нікому не даруе бяздзейснасці на складаных, вызначальных яе паваротах. Усе здаровыя сілы нашага грамадства мусяць адкінуць асабістыя і карпаратыўныя амбіцыі дзеля святой і галоўнай мэты — свабоды і шчасця народу.

Давайце схамянёмся. Давайце адумаемся. Давайце згуртуемся. Давайце ўсвядомім нарэшце свой асабісты абавязак перад нашчадкамі, перад чалавецтвам, перад гісторыяй, перад Беларуссю.

Мы можам перамагчы. Мы павінны перамагчы. Мы пераможам, калі будзем разам!”

*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

## САПСАВАНЫ АДПАЧЫНАК

Магілёўскія сацыял-дэмакраты вырашылі сабрацца разам у ліпеньскія дні, каб адпачыць і абмеркаваць пытанні зараджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі, сітуацыю на сучасным этапе, месца моладзі і яе прапановы грамадству. Слоган лагера гучаў так: *«Хто мы, адкуль і куды ідзем».* Але 50 удзельнікаў лагера вымусілі пакінуць турбазу без тлумачэння прычын.

Як паведаміла арганізатар лагера Юлія Міцкевіч, на мерапрыемства на турбазе Магілёўскага металургічнага завода, што ля вёскі Гаі Магілёўскага раёна, на тыдзень прыехалі людзі з усёй краіны, а таксама госць з Францыі. "Пратрымацца" лагеру атрымалася толькі суткі.

Высялення адміністрацыя турбазы матывавала тым, што нібыта туды прыязджаюць спартсмены, якія забыліся папярэдзіць дырэктара базы аб сваім прыездзе. Акрамя гэтага, у правілах пражывання ёсць пункт, у адпаведнасці з якім адміністрацыя базы мае права выселіць людзей без тлумачэння прычын, распавяла Юлія Міцкевіч. Яна лічыць прычыны высялення, агучаныя адміністрацыяй, фармальнымі.

*– Усё гэта выглядае абсалютнай фікцыяй. Як гэта спартсмены маглі не папярэдзіць дырэктара базы і раптам прыехаць? Ды і высяляць нас прыехалі адразу з міліцыяй, сталі правяраць пашпарты, перапісваць дадзеныя, запрасілі на размову француза. Цікавіліся, хто ён і навошта прыехаў, перапісалі дадзеныя, прабілі па базе тых, хто перасякаў мяжу. Нам тут жа прыгразілі, што калі не з'едзем, то высяляць нас будзе АМАП.*

Арганізатары лагера вырашылі не рызыкаваць удзельнікамі, некаторыя з якіх прыехалі з маленькімі дзецьмі, і маюць намер шукаць іншае месца для правядзення лагера.

*– Мы пакінулі паведамленне ў кнізе скаргаў і прапаноў турбазы, а таксама будзем звяртацца ў суд з пазовам аб кампенсацыі маральнага ўрону за сапсаваны адпачынак. Адміністрацыі мы паабяцалі міжнародны скандал,* – паведаміла Юлія Міцкевіч. Яна дадала, што адпачынак на турбазе быў аплочаны на тыдзень наперад, праўда, пры высяленні ім вярнулі грошы за пакінутыя дні.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

## SMS-кі

☺ Жылкамгас! Колькі мы, жыхары станцыі Буйнічы, вуліца Легендарная, будзем плаціць за гарачую ваду, тэмпература якой 38 - 39 градусаў, па завышаных тарыфах? Для каго існуюць нормы, устаноўленыя Міністэрствам ЖКГ: тэмпература гарачай вады - 50 градусаў? Хто-небудзь нас пачуе ці, як заўсёды, адкажуць: тэмпература вады адпавядае норме? Жылкамгас, спыніце абкраданне кватэранаймальнікаў!

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 31.07.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/